## "Еўрапейская лінія" пройдзе ў Мінску з 10 па 12 чэрвеня

Міжнародны фестываль рэкламы "Еўрапейская лінія", для ўдзелу ў якім запрошаны рэкламісты Беларусі, Расіі, Украіны і краін Балтыі, пройдзе ў Мінску з 10 па 12 чэрвеня. Асноўнай мэтай фестывалю, арганізатарам якога выступіла Беларуская асацыяцыя рэкламістаў, з'яўляецца павышэнне прэстыжу рэкламы як аднаго з відаў мастацтва, дэманстрацыя лепшых дасягненняў айчынных і замежных вытворцаў, прасоўванне на рэкламны рынак найбольш цікавых і арыгінальных прац.

У рамках "Еўрапейскай лініі" будуць праведзены чатыры конкурсы — тэлевізійнай рэкламы, друкаванай рэкламы, радыёрэкламы і рэкламнай фатаграфіі. Вызначаць лаўрэатаў будзе міжнароднае журы, у складзе якога — кіраўнікі буйнейшых рэкламных агенцтваў Беларусі, Расіі і Латвіі.

Трэба адзначыць, што падобная акцыя з удзелам рэкламістаў шасці краін праводзіцца ўпершыню і, на думку яе арганізатараў, дасць магчымасць беларускім агенцтвам далучыцца да еўрапейскай рэкламнай супольнасці.

**Андрэй АСМАЛОЎСКІ.**

## "Дэлойт і Туш" набыла шэраг буйных кліентаў

З адкрыццём беларускага прадстаўніцтва "Дэлойт і Туш" — вядучай міжнароднай карпарацыі, якая аказвае прафесійныя кансультацыйныя і аўдытарскія паслугі, — кампанія змагла значна павысіць узровень абслугоўвання мясцовых кліентаў. Такое меркаванне выказаў у гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН генеральны дырэктар беларускага офіса Юрый Сідаровіч.

Па яго словах, з моманту адкрыцця (каля паўгода таму) беларускага прадстаўніцтва мясцовыя кліенты "Дэлойт і Туш" атрымалі магчымасць атрымліваць не перыядычную дапамогу, а пастаянную падтрымку. Акрамя таго, для сваіх кліентаў беларускі офіс пачаў ажыццяўляць паслугі міжнароднага аўдыту па сусветных стандартах, што прадастаўляе ім значныя зручнасці, дазваляючы адначасова эканоміць час.

У сваёй дзейнасці "Дэлойт і Туш" па-ранейшаму робіць стаўку на буйных кліентаў, якімі з'яўляюцца банкі, прамысловыя прадпрыемствы і кампаніі. Па словах Ю.Сідаровіча, з адкрыццём беларускага офіса кампанія набыла ў рэспубліцы цэлы шэраг новых буйных кліентаў — Беларусбанк, Беларускі банк развіцця, РА "Белтэлекам", прадстаўніцтва Philips, сумеснае прадпрыемства па прадастаўленні паслуг мабільнай сувязі GSM і іншыя.

**Аляксей АРЭШКА.**

Адкрытым тэкстам

# Палітыкаспатыканцтва

Яшчэ і яшчэ раз перачытваю радкі нядаўняй так званай "Заявы беларускіх пісьменнікаў". Брыдка, ды даводзіцца... Горка, ды факт... І ўжо не здзіўляе ні яе з'яўленне, ні яе пралукашысцкая накіраванасць, ні яе езуіцкая сутнасць. Бо за апошнія тры-чатыры гады цынічная афіцыйная палітыка ды нахабнае палітыканства вычварылі з некаторых, здавалася б, нармальных раней інтэлігентаў і творцаў нейкіх ідэйных мутантаў, здольных на любое хрыстапрадаўства.

Гляджу на подпісы. Адны прозвішчы ўспрымаю машынальна, са звыклымі пачуццямі; на іншых запыняю ўвагу, але тут жа знаходжу тлумачэнне мала дзіўным метамарфозам. Хоць, чытаючы некалькі месяцаў таму вядомую заяву Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, неяк і ў галаву не магло прыйсці, што яе змест здольны выклікаць у некага з "настаўнікаў жыцця", "уладароў дум" і "носьбітаў нацыянальнага духу" нешта неадэкватнае. І вось...

Аказваецца, сцвярджэнне членаў Рады, што аб'яднанне ў гэтак званую "саюзную дзяржаву" з велізарнай, да таго ж шматнацыянальнай, федэратыўнай, з мноствам міжэтнічных супярэчнасцей і ўспышкамі сепаратызму Расіі з маленькай унітарнай Беларуссю нясе рэальную пагрозу дзяржаўнаму суверэнітэту апошняй, "па меншай меры здзівіла" некаторых літаратараў. Калі так, то мяне здзіўляе ў сваю чаргу наступнае: хто гэтыя людзі, усе пісьменныя, ды яшчэ і пісьменнікі, якім чамусьці няўцям, як белае — гэта белае, а чорнае — чорнае?..

Па-мойму, дык кожнаму нармальнаму, нават малапісьменнаму чалавеку зразумела, што страта незалежнасці ці хоць бы часткі яе (што адно і тое ж) — гэта страта самай дарагой — як для асобы, так і для ўсяго народа — каштоўнасці. Удумайцеся: пасля здароўя для чалавека самае каштоўнае — свабода. І для любой здаровай дзяржавы свабода і незалежнасць — на першым месцы. Альтэрнатывы, як ні апраўдвайся, тут няма і быць не можа. Інакш — залежнасць, поўная ці частковая, падпарадкаванне "старэйшым" "малодшага", мацнейшым слабейшага. Ды й адна справа — абавязкі саюзніка і зусім іншае — субардынацыя...

Ідэйныя мутанты, аднак, любой "кіраўнічай" авантуры знойдуць апраўданне. Яны, у прыватнасці, пішуць: "...на працягу доўгіх стагоддзяў мы былі разам, дзялілі горыч бед, радасць агульных набыткаў і перамог".

Праўда, "былі"... Ну і што з таго? Адразу ўзнікаюць іншыя пытанні: як і чаму мы былі разам; а калі і былі доўгі час разам, то чаму мы такія розныя? Адказы дае гісторыя. І ніводзін пісьменнік не мае маральнага права яе не ведаць ці з ёю не лічыцца.

А гісторыя сведчыць: больш за 120 гадоў прыгожая і ўрадлівая беларуская зямля была ўскраінай бяздарнай і драпежнай імперыі. Прыплюсуйце сюды ледзь не 80 гадоў бальшавіцкага генацыду, этнацыду, моўнай дыскрымінацыі гэтага і без таго прыніжанага народа. Вось вам і адказ на пытанні, колькі часу і як мы былі "разам"! А нашай дзяржаўнасці, як вядома, цэлае тысячагоддзе! Таму гістарычная праўда ў тым, што "на працягу доўгіх стагоддзяў" мы, беларусы, супрацьстаялі шалёнай экспансіі агрэсіўных усходніх самадзяржаўцаў на Захад.

Падумаць толькі, колькі народаў, колькі "былых саюзных рэспублік", скарыстаўшыся заканамерным крызісам таталітарнай савецкай сістэмы, вырваліся на волю. І ніхто з іх нават не наважваецца ні на якіх умовах лезці ў агульны і хісткі барак. Кожнаму больш зручна і надзейна збудаваць свой уласны дамок. А мы, бачыце, такія нялюдскія, што робім абавязкова наадварот...

Між тым відавочна ўсім, што сучасная Расія з'яўляецца і надалей абяцае быць нестабільнай, непрадказальнай і, хутчэй за ўсё, трагічнай дзяржавай. Лепш памолімся і падзякуем Госпаду Богу, што вырваў нас з крывавых імперскіх кіпцюроў. А то атрымліваецца, што замест гэтага мы ідзём супраць Бога. Гэта ж хвала Богу, што ўсе сённяшнія расійскія праблемы ўжо не нашы! Нам і сваіх па горла хапае.

Не, мае калегі, нехта зусім збіў вас, даверлівых, з толку. Хоць гэты "нехта" добра вядомы. Я разумею: ледзь не ўсе вы на нейкай дзяржаўнай службе. Але службоўцамі быць адно, а прыслужнікамі — другое. Я вось думаю: няўжо калі пачне ўсталёўвацца на Беларусі нармальнае беларускае жыццё, вы ізноў пойдзеце ў прыслужнікі? Але каму вы ў нармальным грамадстве будзеце патрэбныя! Задумайцеся, хоць, зрэшты, здаецца ўжо запозна. Цяпер я больш чым упэўнены, што ў тым, запаветным для беларусаў, грамадстве вы самі станеце прататыпамі новых літаратурных твораў.

Прыкра і вельмі крыўдна, што так недарэчна вырашылі вы згуляць са сваімі "гаспадарамі" ў палітыку. Ды толькі тое, што вы ўчынілі, не палітыка і нават не палітыканства, а хутчэй — палітыкаспатыканцтва... Хоць пісьменнік, як я разумею, па сваёй сутнасці і ёсць палітык. Розніца толькі ў тым, што робіць ён гэтую палітыку інакш — праз асветніцтва і прыгожае пісьменства. Ён жа не проста "пісака", ён яшчэ і грамадзянін у высокім значэнні гэтага слова. Гэта высокі і асаблівы палітык! І спатыкацца яму не да твару. А вы не тое што прынізілі годнасць, вы абразілі званні і грамадзяніна, і пісьменніка, плюнулі на запаветы Купалы і Коласа...

Вось далёка не ўсё, што хацелася сказаць з нагоды так званай "Заявы беларускіх пісьменнікаў". Зрэшты, што гэта за назва такая? Чаму і тут схлусілі? На самай жа справе апублікаваная заява належыць толькі групе... пісьменнікаў. Наўмысна прапускаю адно слова, бо беларускімі іх называць язык не паварочваецца.

**Мікола ТРАФІМЧУК, пісьменнік, паэт.**

## Свой чарговы канцэрт у Мінску Дзяржаўны сімфанічны аркестр Беларусі прысвяціў творчасці французскага кампазітара Марыса Равэля

У канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі выступіў Дзяржаўны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора, народнага артыста Расіі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесара Генадзя Праваторава. Праграма, якой дырыжыраваў Андрэй Галанаў, цалкам складалася з твораў французскага кампазітара Марыса Равэля. Былі выкананы п'есы для сімфанічнага аркестра, фрагмент сюіты з балета "Дафніс і Хлоя", канцэрт для фартэпіяна з аркестрам, дзе бліскуча выступіў лаўрэат міжнародных конкурсаў, беларускі піяніст Сяргей Мікулік. Завяршыўся канцэрт бліскучым выкананнем самага вядомага твора Равэля — "Балеро".

**Вера КРОЗ.**

## Выдавецтва "Трывіум" выпусціла унікальны атлас аўтамабільных дарог "Ад Атлантыкі да Ціхага акіяна"

У сталічным выдавецтве "Трывіум" адбылася прэзентацыя новага атласа аўтамабільных дарог "Ад Атлантыкі да Ціхага акіяну".

Як адзначыў дырэктар прадпрыемства Дзмітрый Ус, атлас, надрукаваны тыражом 50 тысяч экземпляраў пры падтрымцы Дзяржаўнага камітэта па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі Беларусі, з'яўляецца прадметам асобай гордасці выдавецтва і своеасаблівым падарункам аўтааматарам ад беларускіх картографаў, якія ў гэтым годзе адзначылі 60-годдзе айчыннай картаграфічнай вытворчасці. Па словах Д.Уса, новае выданне з'яўляецца самым вялікім па ахопе тэрыторыі (57 краін Еўропы і Азіі) і буйнамаштабным (большасць карт выканана ў маштабе 1:750.000) атласам аўтамабільных дарог з усіх, якія раней выдаваліся ў дзяржавах былога СССР і Еўропы. Дырэктар "Трывіума" заўважыў, што на распрацоўку і выданне унікальнага атласа спатрэбілася каля чатырох гадоў.

Галоўны рэдактар "Трывіума" Вячаслаў Пейхвасэр адзначыў, што галоўнай асаблівасцю новага выдання з'яўляецца прынцыпова новая камп'ютэрная тэхналогія, выкарыстаная пры яго складанні. Яна была распрацавана ў 1995 годзе спецыялістамі выдавецтва сумесна з вучонымі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, калі ўзнікла неабходнасць пераходу ад традыцыйнай фотамеханічнай ручной тэхналогіі складання карт да больш сучаснай. Гэта дазволіла прыкметна скараціць тэрміны стварэння карт, якія пры гэтым чытаюцца намнога лягчэй, заўважыў В.Пейхвасэр.

**Марат ГАРАВЫ.**

Задумайтесь...

## Почему у врача из рук вываливается скальпель?



**Людмила ГРЯЗНОВА, депутат Верховного Совета 13-го созыва, член оргкомитета Хартии'97**

Блистательная музыка рождается под взмахом рук дирижера. Острая статья выходит из-под пера публициста. Тонкая пастель появляется под кистью художника.

Яркие творения рук человеческих ценятся повсюду. Но таким же искусством являются с любовью проверенные и исправленные учителем школьные тетради. Такой же, если не большей, ценностью обладает правильно выписанный рецепт врача, дающий больному надежду на выздоровление.

Но что происходит с этими бесценными руками у нас каждую весну? Образованные люди, обладатели уникальных рук, носители разносторонних знаний — учителя, врачи, журналисты и художники — отправляются на свои дачные сотки, чтобы посадить лук, чеснок, свеклу и картошку. Тонкие пальцы музыканта сжимают черенок лопаты, чистые руки стоматолога вытаскивают сорняки, публицист вручную разбрасывает навоз.

Весенне-полевые работы горожан вот уже много лет как стали суровой необходимостью. Без картошки и овощей не прожить ни врачу, получающему 15—20 долларов в месяц, ни учителю со ставкой в 10 долларов. Скупое государство, скребущее по сусекам своего пустого бюджета, в последнюю очередь отмеряет зарплату в эти уникальные руки.

Весенне-полевые работы на дачных сотках — не развлечение и милое общение с природой. Для многих — это тяжелый труд и дополнительная работа. Вторая, изматывающая занятость, которая подтачивает здоровье. После выходных учителя и врачи не могут прийти в себя в течение нескольких дней — болят спина и суставы, скачет давление и щемит сердце. После работы на сотках не остается сил на для детей и больных. Рука не может удержать мел и написать крылатое выражение на доске, нарисовать карточки и проверить школьные тетради, взять пинцет, сделать укол. Уникальные руки превращаются в грубые, мозолистые, шершавые, способные только сжимать лопату, вытаскивать сорняки и разбрасывать навоз.

С этим положением мы както свыклись, не замечая множества подводных камней такой политики. А ведь за счет второй занятости и продуктов, выращенных на дачных и приусадебных участках, не рушится экономика "рыночного социализма". Ее спасает воздушная подушка домашнего труда, труда на мелких земельных наделах, принадлежащих горожанам. Не будь такой подстраховки, горожанин, получая нищенскую зарплату, не прокормился бы. А так он имеет самые простые продукты для некачественного питания, занят по уши в течение полугода тяжелым трудом за пределами города. Ему некогда поразмыслить о бренности своего существования, о причинах своей двойной занятости, о хитроумных политиках, запрягших его в двойное ярмо.

Гениальная идея спасения советского общества от народного гнева бережно подхвачена белорусскими последователями. Они уразумели, что можно удержать власть, используя рецепт советских руководителей, — подбросить под экономику подушку домашнего труда, труда на дачных и приусадебных участка, заткнуть тем самым рот любознательным и разумным, занять всех непосильным ручным трудом в период уличных шествий и демонстраций.

Итак, прогнившая экономическая система продолжает существовать. Эпидемия полевых работ захватила всех. Творчество и полет разных профессионалов направляются в... грядку. Все согнуты в три погибели и интенсивно "общаются с природой". Запряженный вол пошел по новому кругу весенне-летне-осенних полевых работ, забыв о детях, больных, статьях, картинах и музыке.

Стоп-кадр



*"Мой любімы скакун..."*

**Фота Таццяны ГАЦУРЫ (г. Заслаўе).**

SOS!

## Был прокурором, а теперь — нищий пенсионер

Четверть века я был прокурором Россонского района, ушел на пенсию пять лет назад и вместо заслуженного отдыха каждый день подвергаюсь стрессу. Причем стресс этот рукотворный: кто-то решил в верхах, что пенсионеров-прокуроров, вышедших на пенсию до 1 марта 1994 года, можно сделать изгоями. Неужели мы внесли в жизнь общества меньший вклад?

Как все мы ожидаем повышения пенсий, как все нуждаемся в лекарствах и хлебе! Но цены растут с такой скоростью, что за пенсию, можно сказать, вообще ничего не купишь. Идет такая инфляция, а нашу категорию пенсионеров словно похоронили. За что такое неуважение со стороны Совмина? О пренебрежении государства говорит и президентский Указ №16 от 9 сентября 1997 года, по которому нам как пенсионерам, достигшим 60-летнего возраста, запрещено работать и получать пособие, хотя всем другим категориям это разрешается. Этот Указ разделил пенсионеров-прокуроров на две категории: на тех, кто ушел на отдых после 1 марта 1994 года и был признан инвалидом (им пенсии повышают), и тех, кто сделал это до 1 марта и инвалидности не имеет.

Не секрет, что большие деньги открывают двери. Если бы у меня были такие, я, возможно, и попал бы в Администрацию президента, чтобы рассказать про свою беду и горе таких же, как я, но у меня ничего нет, и 5 месяцев я безрезультатно по обращаюсь во все республиканские инстанции по вопросу повышения пенсий в связи с ростом цен. Осталась одна "Народная воля", которая людей еще понимает и в публикации не отказывает. Может, у высоких государственных чиновников и заговорит когда-либо совесть, да только многим это запоздалое раскаяние не понадобится. Мы вымрем, а вместе с исчезновением людей исчезнут и проблемы.

Ведь в верхах отлично понимают, что некая малочисленная группа пенсионеров оказать влияние уже ни на что не может. Это прокуроры в отставке, и им не под силу потребовать законности в беззаконной стране.

**Николай ПЕЧКУРОВ.**

г.Россоны.

Перапіска

## Дазвольце з Вамі не пагадзіцца, спадар Васілевіч

5 мая 1999 года ў "Народнай волі" было надрукавана абвяржэнне-ўдакладненне артыкула А.Лябедзькі сённяшняга старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь Р.А.Васілевіча. Па яго сцвярджэнні, "26 лістапада 1996 года большасцю дэпутатаў Вярхоўнага Савета быў прыняты закон, які пацвердзіў абавязковы характар рэферэндуму".

Як дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання хачу сказаць наступнае. Вярхоўны Савет не толькі не прымаў закона аб абавязковым характары рэферэндуму, але нават не ўключаў такі законапраект у парадак дня сесіі на пасяджэнні 26 лістапада 1996 года. Калі суддзі Васілевічу трапляўся ў рукі дакумент пад назвай "Закон аб абавязковым характары рэферэндуму", то ён павінен ведаць, што гэта фальшыўка і, як юрыст, павінен звярнуцца ў пракуратуру рэспублікі з просьбай выявіць асоб, сфабрыкаваўшых яго, і прыняць у адносінах да іх адпаведныя меры.

Што датычыць характару рэферэндуму, дык нагадаю, што Канстытуцыйны суд вызначыў, што рэферэндум не можа быць абавязковым, ён можа насіць толькі кансультацыйны характар, што і было пацверджана адпаведна Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання. І не ведаць аб гэтым суддзя Васілевіч не можа.

Больш таго, старшыня Цэнтрвыбаркама В.І.Ганчар не падпісаў пратакола камісіі аб выніках прайшоўшага рэферэндуму, значыць, яго вынікі да гэтага часу не зацверджаны.

Адначасова выкажу сваю асабістую думку наконт рэферэндуму як дэпутат і як проста грамадзянін. Калі тое цемрашальства, той здзек над законам і мараллю, што адбываліся ў лістападзе 1996 года ў Беларусі, назваць "народным волевыяўленнем", дык тады патрэбна поўнасцю перагледзець выпрацаваныя чалавецтвам за доўгія тысячагоддзі паняцці ПРАВА і МАРАЛІ.

**В.М.ГЕРАСІМЕНКА, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання па Петрыкаўскай выбарчай акрузе №110.**

Крыўдна!

## Чаму многія людзі ператвараюцца ў п'янае быдла

Зараз у школах узмоцнена вывучаецца закон "Аб правах дзяцей". Выдатны закон. Але чым ён падмацаваны? Не паглыбляючыся ў мноства праблем, звернемся да адной, якая перакрэслівае ўсе астатнія: п'янства і алкагалізацыя насельніцтва. П'юць бацькі, а гэта значыць, у дзяцей няма магчымасці спакойна рыхтаваць урокі і наогул быць дома.

У каго шукаць абароны ад бацькоў-п'яніц? Дзяржава абараняе нас толькі ў папяровых законах. А на самай справе яна абараняе інтарэсы самагоншчыкаў і спекулянтаў самагонам. Прыедзеш у любую вёску — амаль усе людзі прапітыя, бо ў навакольных лясах цэлыя самагонныя заводы. А некаторым жыхарам вёсак прывозяць з горада алкагольныя напоі іх дзеці. Даруйце нам за моцны выраз, але значная частка народа ператварылася ў п'янае быдла.

Не бачыць гэтага немагчыма, а бачыць і маўчаць — значыць згаджацца і падтрымліваць. Апошняй пазіцыі прытрымліваюцца многія кіраўнікі.

Бог не даруе за такі эксперымент над людзьмі. Таму Вы, шаноўныя парламентарыі і ўрадаўцы, зрабіце хоць адзін крок у накірунку абароны тых, хто не стаў на сцяжынку пагібелі і выратуйце тых, каго можна яшчэ выратаваць!

**Вучні 10—11-х класаў школ №№1, 2, 3, 4, 5 г.Вілейкі Мінскай вобласці.**

## Расце колькасць людзей, якія заразіліся "чумой" стагоддзя

Як паведамілі ў Рэспубліканскім цэнтры прафілактыкі СНІД, на пачатак мая ў Беларусі афіцыйна зарэгістравана 2480 ВІЧ-інфіцыраваных — гэта на 139 вірусаносьбітаў больш у параўнанні з пачаткам 1999 года, прычым 39 выпадкаў было выяўлена ў красавіку.

Сярод рэгіёнаў па-ранейшаму сумнае "лідэрства" належыць Гомельскай вобласці, дзе на пачатак мая зарэгістравана 1936 ВІЧ-інфіцыраваных. За чатыры апошнія месяцы колькасць выяўленых вірусаносьбітаў тут узрасла на 82 чалавекі. За ёй ідуць Брэсцкая (107 чалавек), Магілёўская (87), Віцебская (42) і Мінская (39 выпадкаў). Найменшая колькасць заразіўшыўся "чумой XX стагоддзя" выяўлена ў Гродзенскай вобласці — 16 чалавек. Калі гаварыць пра Мінск, за прайшоўшыя з пачатку года чатыры месяца тут было выяўлена 14 вірусаносьбітаў, з іх у красавіку — 5 чалавек і зараз у сталіцы Беларусі агульная колькасць афіцыйна зарэгістраваных вірусаносьбітаў складае 253 чалавекі.

Адначасова, па разліках спецыялістаў, у цэлым сапраўдная колькасць ВІЧ-інфіцыраваных у Беларусі ў 10—12 разоў вышэйшая за афіцыйную інфармацыю.

**Аляксей АРЭШКА.**

## У Мінскім мастацкім ліцэі адкрыўся вернісаж "Вясна. Надзея"

У Мінскім мастацкім ліцэі праходзіць вернісаж "Вясна. Надзея", на якім экспануюцца творы выхаванцаў Дзіцячай акадэміі мастацтваў. На выставе прадстаўлены працы юных майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, прычым найбольш цікавыя з іх уяўляюць сабой не фармальныя кампазіцыі, а спробу асэнсавання і выкарыстання дасягненняў аўтэнтычнай народнай творчасці. Госці выставы — выкладчыкі, мастакі і мастацтвазнаўцы высока ацанілі творы, выкананыя ў традыцыйных матэрыялах, — габелены і роспісы па шкле, батыкі і пляценне з саломкі, надглазурны роспіс, пано і кераміку. Вядомы беларускі мастак Уладзімір Басалыга адзначыў, што юныя таленты імкнуцца чэрпаць натхненне ў прыгажосці, якая з'яўляецца сапраўднай крыніцай народнай творчасці, дзякуючы чаму беларускае мастацтва будзе жыць. Народны мастак Беларусі Уладзімір Стэльмашонак адзначыў роспіс па шкле "Восень" — пяцікласніцы Юлі Канавалавай (кіраўнік Ніна Дранковіч) — і ўзнагародзіў дзяўчынку сваім аўтарскім творам.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Люди, помогите!

В народе говорят, что одна беда не ходит, хоровод за собой водит. Так и у меня: почти одновременно вышли из строя телевизор и холодильник. Вызванные мастера по ремонту в один голос заявили, что они ремонту не подлежат, нужно приобрести новые.

За свою персональную пенсию в 21 доллар я не только не смогу что-либо купить, но даже прожить, свести концы с концами.

По этому вопросу я дважды обращался к президенту. Однако он оказался глух и нем.

Думал, что ко мне, как заслуженному работнику культуры БССР, ветерану войны, инвалиду II группы, освобождавшему в 1944 году Беларусь (в частности, г.Полоцк), отнесутся по-человечески. Но у властей человечность — не в почете.

Поэтому я обращаюсь к богатым людям, отзывчивым и благородным: помогите мне в моей беде. Возможно, кто-то купил себе новые телевизор или холодильник, а старые работают неплохо — подарите их мне или окажите помощь деньгами.

Особо обращаюсь к богатым людям городов Полоцка и Новополоцка. В составе 10-й танковой бригады Баграмяна я боролся за освобождение города Полоцка.

Мой адрес: 211726, г.Докшицы Витебской области, ул.Черняховского, 30, Плигавке Константину Кирилловичу. Телефон: 2-14-58 в Докшицах.

**К.ПЛИГАВКА, ветеран войны.**

Спрашиваете — отвечаем

## Так когда же заканчивается срок полномочий президента Республики Беларусь?

*Статья 97 Конституции 1994 года гласит, что президент избирается народом сроком на пять лет. В статье 81 новой редакции Конституции (с изменениями и дополнениями) также записано, что президент избирается на пять лет непосредственно народом Республики Беларусь. Тем самым никаких принципиальных изменений в Конституцию по данному вопросу не вносилось.*

*Разъясните, на каком основании А.Г.Лукашенко хочет продлить срок своих полномочий еще на два года? Разве может быть такое, чтобы Конституция Республики Беларусь 1994 года с изменениями и дополнениями вступила в силу только в ноябре 1996 года?*

*А.Филимонов.*

*Гомель.*

Да, с продлением президентских полномочий у разработчиков "изменений и дополнений в Конституцию Республики Беларусь 1994 года", на мой взгляд, получилась неувязка, и даже не одна.

1. В случае изменений в Конституцию относительно сроков полномочий президента или другого должностного лица эти поправки должны быть ориентированы на будущее время, для новых избранников и назначенцев, но не для нынешней власти. Такова обычная юридическая практика европейских стран.

В рамки современных стандартов не укладывается способ продления сроков президентских полномочий через референдум. Правда, такой случай имел место в Казахстане, но там сам президент исправил допущенную ошибку и вернулся к конституционным нормам. Вот сейчас Беларусь претендует на новаторство в этой сфере и собирается предложить миру свой вариант продления президентской власти за счет "памяркоўнага" народа.

На мой взгляд, эта инициатива не имеет под собой ни правовых, ни моральных оснований. Первый президент Беларуси избирался на пять лет. Он приносил присягу, клялся выполнять свои обязательства, положа руку на сердце. И вдруг захотелось поправить подольше. Услужливые советники предложили использовать "глас народа", высказанный на референдуме. И вроде бы народ поддержал желание президента, хотя все мы знаем, с какими многочисленными и грубейшими нарушениями проводился референдум.

Но какие бы ссылки не приводились в обоснование продления полномочий нынешнего президента, их нельзя признать. В любом случае это — нарушение произнесенной президентом присяги. Более того, это в высшей степени аморальный поступок, подрывающий репутацию президента. При наличии умысла можно говорить даже о незаконном присвоении власти, что связано с уголовно-правовой оценкой такого рода действий.

2. Следует также учесть, что вопрос о продлении срока президентских полномочий не выносился в качестве отдельного вопроса на референдум. Граждане Республики Беларусь, принявшие участие в голосовании, в большинстве своем даже не догадывались, что, поддержав предложенные президентом поправки в Конституцию 1994 года, они тем самым высказались за продление срока его полномочий.

Такой прием в преступном мире называется "использовать втемную", то есть воспользоваться незнанием человека относительно истинных замыслов организаторов. В сфере государственной деятельности — это запрещенный прием. Здесь игра должна вестись открыто, по правилам, установленным законами. При проведении референдума избиратель должен четко осознавать, за что он голосует, а организаторы акции должны ясно показать, что они предлагают людям и каков может быть результат. В вопросе же о продлении сроков полномочий президента народ попросту обманули, не выделив этот вопрос в качестве самостоятельного и не разъяснив его необходимость и значимость.

В таком случае ответственность за последствия акции возлагается на организатора и исполнителей. Применительно к ноябрьскому 1996 года "мероприятию" это означает, что полученный результат по вопросу продления полномочий президента следует признать ничтожным по своим юридическим последствиям. То, что достигнуто обманным путем, не должно иметь юридической силы.

3. Для того, чтобы как-то продлить срок полномочий нынешнего президента, разработчики "изменений и дополнений" Конституции пошли еще на один недопустимый с правовой точки зрения прием. Норму о продлении срока полномочий президента они включили в раздел "Заключительные и переходные положения", который по своему содержанию выходит за рамки Конституции. Вопросы о введении Конституции в действие обычно оговариваются в специальном законе или постановлении парламента. В нашем же случае их "впихнули" в сам текст Конституции и предложили избирателям за него проголосовать. Я считаю это коварством со стороны разработчиков, которые наверняка знали, что делали.

А ведь должно быть по-другому. После голосования по изменениям и дополнениям в Конституцию Верховный Совет Республики Беларусь должен был заслушать председателя Центризбиркома о результатах голосования, убедиться в их достоверности, после чего утвердить или отвергнуть. В случае положительного решения по вопросам изменений и дополнений в Конституцию Верховный Совет должен был образовать Конституционную комиссию, которая, опираясь на волю избирателей, подготовила бы поправки в Конституцию. Эти поправки должны пройти не менее двух обсуждений с интервалом не менее трех месяцев и только потом приняты. А сами изменения и дополнения в Конституцию вносятся конституционным законом, принимаемым Верховным Советом Республики Беларусь.

В данном же случае разработчики "изменений и дополнений" Конституции представили нормы о введении в действие Конституции в виде поправок. Это лишний раз говорит о нелегитимности новой редакции Конституции, поскольку грубо нарушена процедура внесения в Конституцию изменений и дополнений.

4. Заведомо нарушив законотворческую процедуру, разработчики, похоже, обманули и самих себя. Не желая того, они все-таки не дали президенту А.Лукашенко права претендовать на два лишних года правления.

Судите сами. В статье 144 новой редакции Конституции записано, что срок полномочий президента Республики Беларусь исчисляется со дня вступления в силу настоящей Конституции. Обратите внимание: "...со дня вступления в силу настоящей Конституции". Возникает вопрос: какую Конституцию считать настоящей?

Всем известно, что в новейшей истории Беларуси была и есть одна Конституция. Да, да, принятая в результате длительных и жарких споров Верховным Советом Республики Беларусь 15 марта 1994 года. В ее разработке участвовал и сам А.Лукашенко, тогда депутат Верховного Совета. Эта Конституция стала правовой основой для учреждения поста президента и для восхождения на высшую ступеньку власти А.Лукашенко.

Потом — в ноябре 1996 года — была предпринята попытка заменить эту Конституцию путем внесения в нее многочисленных изменений и дополнений, особенно что касается полномочий президента. Новую Конституцию могли бы вынести на референдум, но действующая Конституция этого не предусматривала. Поэтому организаторы вынуждены были остановиться на "поправках". От наполнения Конституции 1994 года чужеродными и антидемократическими "поправками" она не перестала быть НАСТОЯЩЕЙ. А значит, и срок полномочий президента не изменился — пять лет с момента принесения присяги.

Так что с юридической точки зрения и здравого смысла все ясно. Срок полномочий нынешнего президента оканчивается 20 июля 1999 года, ровно через пять лет после торжественной церемонии вступления в должность. Никто не может этот срок продлить, даже на один день. В противном случае легитимность президента будет поставлена под сомнение.

**Михаил ПАСТУХОВ, доктор юридических наук, профессор, легитимный судья Конституционного суда Республики Беларусь.**



